*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**№ 174 (296)**
Чацвер, 2 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 7.03 | 18.35 |
| Магілёў | 7.01 | 18.35 |
| Гомель | 6.58 | 18.33 |
| Мінск | 7.12 | 18.46 |
| Гродна | 7.27 | 19.01 |
| Брэст | 7.27 | 19.03 |

*Першая квадра 9 кастрычніка.*



**Роздум напярэдадні з'езда настаўнікаў**

## Ёсць толькі адзін шлях выратавання нашага народа ад духоўнай дэградацыі

Як і многіх педагогаў, мяне вельмі цікавіць маючы адбыцца ў кастрычніку ў Мінску з'езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь. Атрымліваючы звесткі пра яго з газетных артыкулаў, перадач па радыё і тэлебачанні, я так і не ўлавіла, што ж на ім збіраюцца канкрэтнага зрабіць, каб пераўтварыць нашую адукацыю ў поўным сэнсе слова ў беларускую, нацыянальную. А гэта ж соль усіх рэформаў у галіне адукацыі! Калі ў час з'езда не будуць акрэслены шляхі вырашэння гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы, дык можна будзе лічыць, што мы нічога не збіраемся рабіць для яго выратавання ад агіднай для ўсяго цывілізаванага свету нацыянальнай дэградацыі. Дзіву даешся: краіна стала незалежнай і суверэннай, мае цэлую армію таленавітых вучоных ва ўсіх галінах навукі, высокакваліфікаваных педагогаў, але ніхто з іх і пальцам не варушыць, каб нарэшце паставіць адукацыю на трывалы нацыянальны падмурак!

Усе краіны, стаўшыя ў свой час на шлях адраджэння, пачыналі яго з заснавання нацыянальнай сістэмы адукацыі. Варта адзначыць рускіх прашчураў, у якіх на пачатку XIX ст. хапіла розуму, каб разабрацца, да чаго можа прывесці засілле ў педагогіцы сістэм нямецкай і французскай школ, а разабраўшыся, пастарацца зрабіць усё, каб у рускага народа развівалася не чужая, а свая нацыянальная сістэма педагогікі. Якой ёй быць, не пыталіся ў народа. А калі б спыталі, асабліва ў дваран, буйных чыноўнікаў, яны, напэўна ж, выказаліся б за нямецкую ці французскую школы, мяркуючы з дапамогай іх працерабіць сваім дзеткам шлях у Еўропу.

Лічу крайне неабходным, каб з'езд настаўнікаў запатрабаваў ад дзяржавы надаць праблеме стварэння ў Беларусі нацыянальнай сістэмы адукацыі самы высокі статус. Менавіта гэтая праблема, а не якая-небудзь іншая, павінна стаяць першым пытаннем на парадку дня з'езда настаўнікаў. Яго другое пытанне — шляхі ўвядзення беларускай мовы ў якасці асноўнай у практыку работы ўсіх тыпаў дзяржаўных і недзяржаўных навучальных устаноў.

Верыцца, што сярод дэлегатаў знойдзецца дастаткова педагогаў, якія добра ведаюць, што ад канчатковай асіміляцыі можа выратаваць і прывесці беларускі народ да сапраўднага духоўнага прагрэсу толькі нацыянальная сістэма адукацыі.

**Ефрасіння АНДРЭЕВА, доктар педагагічных навук, прафесар.**

**Ведай нашых!**

### Вядомых усяму свету беларусаў становіцца ўсё больш

Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы кожны год прысвойвае званне "Чалавек года". Уладальнікамі яго становяцца людзі, якія сталі вядомымі ў розных галінах навукі, культуры, літаратуры. У спісе гэтых славутасцей нямала і беларусаў. Нядаўна ён папоўніўся.

З Англіі паступіла паведамленне, што "Чалавекам года" ў галіне культуралогіі стаў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. Ён аўтар 12 кніг, частка з якіх перакладзена на рускую, літоўскую, польскую, нямецкую, англійскую, славацкую і іншыя мовы.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БелТА.**

**Стоп-кадр**



Ольга Валента работает художником-оформителем Ивьевской центральной библиотеки и заочно учится в Государственном университете культуры в Минске.

Фото Романа КОБЯКА, БелТА.

**Закулисье**

## Что ж ты так, "друг Жак"?

Жак Ширак — президент Франции — в ходе его нынешнего визита в Российскую Федерацию среди прочих вопросов проинформировал Бориса Ельцина и о подготовке к европейскому саммиту. Он пройдет 10—11 октября во французском городе Страсбурге.

Президент Франции подтвердил уже распространенную информацию о том, что на встречу в верхах приглашены в качестве участников руководители 44 стран европейского континента. Франция как организатор этого мероприятия обошла своим приглашением только две страны — Югославию и Беларусь. Их руководителей в Страсбурге не будет ни в роли участников, ни даже гостей.

В этой связи невольно вспомнилось, как много и горячо говорил о "друге Жаке", возвратившись после официального визита во Францию в прошлом году, президент Александр Лукашенко. Чего только тогда ни рассказывалось: и, мол, Конституции в двух государствах почти одни и те же, и президенты очень полюбили друг друга.

А один высокопоставленный чиновник рассказал мне такое. Когда президентский самолет с Александром Лукашенко приземлился в минском аэропорту, совершив полет по маршруту "Париж — Минск", Александр Григорьевич сообщил встречающим его официальным лицам: мы так подружились с президентом Шираком, что на прощание я ему сказал: если Вы когда-нибудь будете лететь в Москву через Беларусь, то мы непременно посадим Вас в Минске и Вы ощутите на себе наше белорусское гостеприимство.

Увы, президент Франции почему-то не внял этому приглашению и отправился, минуя Александра Григорьевича, к Борису Николаевичу. Что ж ты так, "друг Жак"?

**Владимир ГЛОД.**

**Слышали?**

## "Нет дураков", – сказали студенты Янчевскому и покинули зал...

По этому поводу Свободный профсоюз студентов БГУ уже провел ряд акций. Так называемый Белорусский патриотический союз молодежи, беспокоясь о своей популярности среди студенчества, решил перехватить инициативу.

В этот день на всех факультетах БГУ появились большие плакаты, текст которых не только привлекал, но и приглашал студентов на встречу с членами ЦК БПСМ. Темой обсуждения, как явствовало из агитки, станет повышение платы за обучение. На раскачку времени БПСМ не выделял. Мероприятие организовали в тот же день в главном корпусе университета.

Многие, признаться, не ожидали, что к их проблемам проявит живой интерес главный молодой "патриот" Всеволод Янчевский. В своем очень "проникновенном" вступительном слове, которое напоминало речь Остапа Ибрагимовича Бендера в шахматном клубе г.Васюки, Янчевский не смог достучаться, дойти до сердца каждого. Студенты его призывы "потерпеть-подождать" не воспринимали. Две трети собравшихся дружно встали и покинули озадаченного Всеволода Янчевского с немногочисленными, но, прямо скажем, верными соратниками.

И следующие полчаса Всеволоду пришлось выступать в почти пустом зале. Он зачитал несколько малосодержательных бумаг, подписанных "батькой", ответил на пару заготовленных вопросов. От ответов на вопросы, рожденные тут же, в аудитории, уклонился и вынужден был быстренько свернуть собрание, пока не разбежались самые стойкие.

**Олег ЖАЛЕЙКО.**

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, прафесар, доктар эканамічных навук*

## Як мы расцём, калі вал ідзе ўгору, а фінансы спаўзаюць уніз?



Ахарактарызаваць сённяшні стан эканомікі Рэспублікі Беларусь і яе так званы рост можна двума фразамі: вал ідзе ўгору, фінансы прадпрыемстваў спаўзаюць уніз. І такая сітуацыя, калі павялічваецца аб'ём вырабляемай прадукцыі любой цаной, а на складах растуць горы нерэалізаванай прадукцыі, прама скажам, трывожная. Невыпадкова, што на гэта вымушаны быў нядаўна звярнуць увагу нават прэзідэнт. Сапраўды, не да аптымізму, калі 51% прадукцыі месячнага вырабу на канец жніўня застаўся на складах, а са студзеня на пачатак верасня таварныя залежы павялічыліся аж на 5,3 трыльёна рублёў. Па гэтай прычыне на нядаўна праведзеным пашыраным праўленні Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арэндатараў з удзелам вялікай групы кіраўнікоў прадпрыемстваў было заяўлена, што "далейшае бяздумнае нагнятанне аб'ёму вытворчасці прадукцыі незалежна ад таго, ці рэнтабельная яна, ці мае збыт, катастрафічнае для эканомікі прадпрыемстваў". Зразумела, што ў гэтых умовах не можа ісці і гаворкі аб нейкім уздыме.

Рост росту розніца. А цяперашні рост, які ажыццяўляецца цаной непамерных пазык, калі крэдыторская запазычанасць перавышае дэбіторскую на 27,6 трыльёна рублёў, або на адну чвэрць, проста ідзе нейкае штучнае эканамічнае напампаванне. Прычым няўхільна расце памер пратэрмінаваных крэдытаў (33,6 трыльёна рублёў у студзені і 44,2 трыльёна рублёў у жніўні). Ды і сама дэбіторская запазычанасць, якая дасягнула 108 трыльёнаў рублёў, гэта ж неплацяжы. Прадукцыя не рэалізуецца, і многім прадпрыемствам няма чым плаціць. Разбалансаванасць такая, што не дапамагаюць ні векселі, ні іншыя каштоўныя паперы.

З гэтага відаць, які ў нас рост і за кошт якіх рэсурсаў ён ажыццяўляецца. Словам, гэты рост проста гіпертрафіраваны, невытлумачальна дзеля чаго ён, хіба каб проста змарнаваць рэсурсы. Такая несуцешная выснова паўстае і з улікам таго, што і знешняя запазычанасць таксама расце. З-за мяжы завезлі ўжо тарнай прадукцыі болей, як вывезлі на велізарную суму — аж на 1 079 млн. долараў. Проста адбываецца нейкае марнатраўства. Зразумела, што гаварыць у гэтых умовах аб рэнтабельнай рабоце не выпадае. Рэнтабельнасць памерам 11—13% не дазваляе і думаць аб расшыраным узнаўленні, тым болей што кожнае пятае прадпрыемства стратнае, а ў будаўнічай і лёгкай прамысловасці — кожнае трэцяе, не гаворачы ўжо аб умоўна рэнтабельных з рэнтабельнасцю 5—7%, дзе прыбытку не хапае нават для выплаты падаткаў.

Крызіс фінансаў прадпрыемстваў у наяўнасці. Але дзяржава апроч непамернага падаткавага прэсінгу ўводзіць усё новыя формы фінансавага ўціску. Так ужо ў верасні пачала ажыццяўляцца адміністрацыйная палітыка ўстанаўлення цэн, што можа прывесці да поўнага затухання дзелавой актыўнасці прадпрыемстваў. Гандлёвыя прадпрыемствы атрымалі загад Міністэрства гандлю не купляць тавары тых прадпрыемстваў, дзе месячны тэмп росту цэн перавышае 2%. З улікам таго, што, па прагнозах Міністэрства статыстыкі і аналізу, цэны на прамысловую прадукцыю павысяцца за бягучы год на 92%, а на спажывецкія тавары — на 56,4%, такая практыка цэнаўтварэння ёсць пятля на шыі прадпрыемстваў. Бо занадта вялікія нажніцы паміж цэнамі ўводу ў вытворчасць рэсурсаў і выхаду прадукцыі.

Сапраўды, як могуць зводзіць канцы з канцамі прамысловыя прадпрыемствы, калі цэны на рэсурсы (прамысловую прадукцыю) ужо павысіліся ў параўнанні са снежнем 1996 года на 77,8%, а цэны на спажывецкія тавары — на 44,6%. Гэтае ж разыходжанне ў цэнах абумоўлівае незалежнае ад прадпрыемстваў павышэнне выдаткаў, тым болей што значную частку рэсурсаў прадпрыемствы набываюць за мяжой, а цэны на іх пастаянна растуць. Заработную плату таксама трэба павышаць. А тут улады патрабуюць, каб выхадныя цэны не павышаліся болей як на 2% у месяц. Як тут выходзіць з тупіковай сітуацыі? Ці не жорсткае рэгуляванне цэн, лепей сказаць адміністрацыйны ціск, меў на ўвазе міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, калі нядаўна заявіў, што знойдзена форма барацьбы з інфляцыяй? Калі так, то можна запярэчыць, што станоўчых вынікаў такая палітыка цэнаўтварэння не дасць. Вынік будзе адзін — зніжэнне і без таго нізкага прыбытку ў прамысловасці, вымыванне абаротнага капіталу і накапленне інфляцыйнага патэнцыялу на будучы год. Пэўна ж, уладам вядома, што забяспечанасць прадпрыемстваў уласнымі абаротнымі сродкамі складае сёння меней 30%.

Парадаксальна, але нават тыя меры, якія прыняты нібы дзеля паляпшэння фінансавага становішча прадпрыемстваў, працуюць насуперак іх інтарэсам. Маецца на ўвазе так званая палёгка ў справе абавязковага продажу валютнай выручкі. Раней прадпрыемствы былі абавязаны прадаваць дзяржаве палавіну валютнай выручкі, а зараз толькі 30%. Але раней прадпрыемствы маглі на працягу цэлага месяца выкарыстоўваць атрыманую валюту, пускаць яе ў абарот, а зараз на працягу 5 дзён яе трэба здаць у казну. Дык ці выйгралі прадпрыемствы? Знешне нібы так, а рэальна — не.

Дзяржаўнікі прыдумалі і такую форму ціску на прадпрыемствы: прадаваць валюту за рублі прадпрыемствы мусяць па курсу Нацбанка (дзесь 27 тыс. руб. за долар), а купляць — па рынчанаму (па 38 тыс. рублёў і вышэй). І тут удар па прадпрыемствах.

Калісьці галоўны куратар эканомікі краіны Пётр Пракаповіч, яшчэ як дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, выступіў з крытычнымі артыкуламі ў "Народнай газеце" супраць крэдытнай палітыкі Нацыянальнага банка па жыллёваму будаўніцтву. Тады спадар Пракаповіч сцвярджаў, што крэдыты пад жыллё могуць быць толькі мультыплікатарамі эканамічнага развіцця. Не разумеў "галоўны эканаміст" краіны адной "дробязі": дзяржаўны мультыплікатар мог спрацаваць толькі пры ўмове, калі ў народа ёсць грошы купляць жыллё. Крэдыты зноў вярнуліся б у банкі, і грошы маглі б пачаць свой новы кругазварот. А без гэтага крэдыт ператвараецца ў інфляцыйнае фінансаванне ці субсідзіраванне.

Нешта падобнае адбываецца і зараз. Аб'явіўшы галоўным накірункам эканамічнага развіцця пэўныя прыярытэты, сярод іх — як жыллёвае будаўніцтва, так і знешні гандаль, ва ўрадзе, безумоўна, разлічвалі на мультыплікацыйны эфект. На гэта разлічваў і аўтар гэтых радкоў. А што атрымалася? Прыярытэты зваліся да звычайных субсідзій і фінансавання, напрыклад, сельскагаспадарчай вытворчасці. А што датычыцца экспарту, то справа абмяжавалася тым, што, напрыклад, у гэтым годзе Нацбанкам выдзелены экспарцёрам крэдыты на суму 1,2 трыльёна рублёў, па сутнасці, без усялякіх ільгот. Дык звычайныя крэдыты прадпрыемствы маглі атрымліваць і без дзяржаўных прыярытэтаў. А вось рэалізоўваць пакінутую ім валюту на вольным валютным рынку прадпрыемствам не дазволена, што ва ўмовах інфляцыі моцна пагаршае іх фінансавы стан.

У рэшце рэшт атрымліваецца, што так званы эканамічны рост суправаджаецца рэзкім абвастрэннем фінансавага крызісу, што надзвычай небяспечна для бліжэйшай перспектывы.

**По существу**

## Тайна за семью печатями?

**Павлу Шеремету предъявлено обвинение. Какое конкретно? Об этом старший следователь управления Комитета государственной безопасности по Гродненской области Борис Рагимов умалчивает, ибо намерен взять подписку с адвокатов о неразглашении тайны следствия**

Новости из Гродно обескураживают. Все просьбы адвокатов об изменении меры пресечения Павлу Шеремету остаются без внимания. Пошел 67-й день, как руководитель белорусского бюро ОРТ удерживается в следственном изоляторе.

После двух месяцев отсидки Шеремету должны были предъявить конкретное обвинение, а следователи (разумеется, из-за новых, вдруг "открывшихся" обстоятельств) посчитали необходимым продлить следствие еще на один месяц.

Во вторник, в полдень, когда пишутся эти строки, связываюсь по телефону со старшим следователем управления Комитета государственной безопасности по Гродненской области Борисом Рагимовым. К сожалению, единственная новость, которую довелось услышать от Бориса Николаевича, была такой: он собирается предъявить Павлу Шеремету обвинение. И не когда-нибудь, а во вторник. К шестнадцатичасам.

**— А не могли бы вы коротко сформулировать суть обвинения?**

— В интересах следствия я не имею права это сделать...

**— В таком случае сообщите, пожалуйста, то, что можете сказать для прессы.**

— К сожалению, еще не время открыто печатать материалы обвинения, даже упоминать их...

**— Неужели такая большая тайна?**

— Представьте себе. Я даже собираюсь взять подписку у адвокатов о неразглашении тайны следствия.

Как известно, ни Гарри Погоняйло, ни Михаил Волчек, ни Надежда Дударева, защищающие подследственных из съемочной белорусской группы ОРТ, ранее таких подписок не давали.

**— Есть ли перспектива и надежда на то, что Павлу Шеремету сменят меру пресечения на подписку о невыезде?**

— Таких перспектив в ближайшее время не предвидится.

В чем же обвиняют Павла Шеремета? Единственным, пожалуй, источником информации остается беспроволочный "тюремный телеграф". Сумел же подследственный журналист передать из неволи письмо, которое уже опубликовали "Белорусская деловая газета", московские "Известия"! Вдобавок у Шеремета есть одно явное преимущество перед адвокатами — и это не оспаривает Борис Рагимов — следователь не имеет права требовать от обвиняемого подписку о неразглашении тайны следствия.

О чем напишет в очередной раз Павел?

**Постскриптум.** Я позвонил родителям Павла Шеремета. Людмила Станиславовна, сменив на этом постоянном для семьи Шереметов маршруте Григория Николаевича, уехала в Гродно. К сыну, с которым так и не было ни единой встречи. Выслушать предъявленное обвинение своему подзащитному направился в следственный изолятор адвокат Михаил Валентинович Волчек. Что принесет для них грядущий день?

Читатели об этом узнают, возможно, из других источников информации — радио или телевидения — пока за границей будет печататься и доставляться этот номер "Народной воли".

**Виктор СВИРКО.**

**А что там на Брестчине?**

### Бедность не порок?

Брестская область является самым низкооплачиваемым регионом Беларуси. По данным статистики, нынешним летом средняя заработная плата здесь составляла чуть больше двух миллионов рублей, тогда как в Минске — более трех миллионов, в среднем по республике — около 2,3 миллиона рублей. Конечно, и это не деньги, но непонятно другое: по основным показателям социально-экономического развития Брестчина уверенно идет впереди всех. Среди главных причин низких доходов брестчан называются работа в режиме неполного рабочего дня и неоплачиваемые отпуска из-за простоев производства.

### Убит при исполнении долга. Хотя в долг не брал...

Лишь два месяца прослужил в белорусской армии кобринский паренек Олег Лаечко. Его убили сослуживцы — трое гродненцев (впрочем, не будем забегать вперед, ибо пока они хоть и арестованные, но лишь подозреваемые). Тело Олега доставили матери на вертолете. Его хоронил почти весь город. Люди говорили о "дедовщине" и о "землячестве", которых, согласно официальному мнению, в белорусской армии нет.

### Сидеть ли бельгийскому шоферу?

Водитель автобуса, по неосторожности убивший отправленных на оздоровление чернобыльских детей, продолжает находиться в СИЗО. Скорее всего, гражданину Бельгии будет предъявлена для обвинения статья УК, предусматривающая ответственность за совершение ДТП, повлекшего человеческие жертвы. С заключительной точкой, которую хотело бы побыстрее поставить следствие, возникли проблемы лингвистического характера: обвиняемый имеет право прочесть материалы предварительного следствия на своем родном языке.

### Наслушали на миллиард?

Управление КГБ по Брестской области оказалось миллиардером по суммарному долгу брестским связистам. Эта цифра несказанно удивила даже самих сотрудников Брестоблтелекома: немногие предприятия и службы оказываются столь говорливыми, а тут особая организация, о сотрудниках которой ходят легенды как о великих молчунах. А может, они на столько и намолчали?

### Труба...

Брестские железнодорожники сворачивают работы по перевозке труб для начатого прошлогодней осенью строительства газопровода "Ямал — Западная Европа". Брестское отделение Белорусской железной дороги занималось транзитом труб большого диаметра, поступающих из Германии, и имело хорошую прибыль. Но затем объемы перевозок значительно сократились, а ныне и вовсе имеют тенденцию к затуханию: российский "Газпром" отказывается от германских труб по причине их подорожания.

**Подготовила Анна ШАХОВА.**

## Двести аукционов, более 10 миллионов долларов и желание пожилых видеть своих детей в негосударственном секторе

### Таков итог четырех лет осуществления проекта МФК "Малая приватизация в Беларуси"

*Четыре года назад, в конце сентября 1993 года, состоялся первый аукцион в рамках проекта Международной финансовой корпорации (МФК) "Малая приватизация в Беларуси". Он стал точкой отсчета времени реформ обширного сектора коммунальной собственности, находящегося в распоряжении местных властей. На помощь органам приватизации пришли консультанты МФК.*

Открытие проекта МФК в Беларуси стало возможным после того, как в ноябре 1992 года наша республика стала членом этой международной организации. Войдя в Международную финансовую корпорацию первой из республик бывшего Союза, Беларусь получила право не только на долю акций на общую сумму 5 миллионов 162 тысячи долларов, но и на различного рода помощь. Так как наиболее действенным способом расширения частного сектора является приватизация, правительство Беларуси обратилось в корпорацию за помощью в проведении этого процесса. Со дня основания первого проекта МФК в республике его финансирует Агентство США по международному развитию.

Консультанты проекта начали работу с создания оптимальной модели малой приватизации, которая отвечала бы нормам белорусского законодательства. Совместно с Госкомимуществом и местными органами была разработана процедура продажи предприятий и других объектов на аукционе, которая впервые начала применяться в Бресте. Видя результативность работы, к проекту присоединялись новые города. В 1994 г. это был уже не только Брест, но и Гродно, Орша; в 1995 г. договоры о сотрудничестве с МФК подписали Кобрин, Барановичи, Лида, Новогрудок и Витебск, в 1996 г. — Гомель, в этом году — Волковыск. В ближайшей перспективе проекта — заключение договора с Могилевом — городом, где уже работают консультанты МФК.

Аукцион стал одним из основных способов малой приватизации, обеспечил открытость и целенаправленность этого процесса, завоевал доверие представителей деловых кругов — покупателей приватизируемых объектов. В результате из 600 с небольшим объектов коммунальной собственности, приватизированных в стране с 1993 года путем продажи на аукционах, более 400 было продано на открытых торгах, организованных в рамках проекта.

Каждый из городов республики отличается своими особенностями. Специфика местной нормативной базы в области приватизации, разная структура отраслей обслуживания населения, различная степень их монополизации требовали разного подхода к их реформированию. Поэтому консультанты проекта участвовали не только в подготовке и проведении аукционов, но и в разработке и практической реализации мер по продаже в собственность помещений, арендуемых приватизированными предприятиями, приватизации арендованного госимущества, созданию товариществ собственников совместного домовладения.

Осенью 1996 г. с внесением изменений в законодательство о приватизации сложились условия для значительного ускорения процессов реформирования государственной собственности. Закон "О внесении изменений и дополнений в некоторые законодательные акты по вопросам разгосударствления и приватизации государственной собственности Республики Беларусь" определил конец 1997 года сроком завершения приватизации государственных предприятий торговли, общественного питания и бытового обслуживания. Появились возможности снижать цены объектов при их повторном выставлении на торги, шире использовать выкуп госимущества. С принятием республиканского положения об аукционах стало возможным чаще выставлять непроданные объекты на повторные торги.

Если в 1993 г. в рамках проекта удалось провести только 2 аукциона, то в 1994 г. их было проведено 17, в 1995 г. — 28, в 1996 г. — 84. На 200 аукционах в рамках проекта было продано более 400 объектов приватизации на сумму более 150 миллиардов рублей, что эквивалентно более чем 10 миллионам 800 тысячам долларов. При содействии консультантов МФК и органов приватизации коллективы 50 структурных подразделений 16 арендных предприятий осуществили выкуп государственного имущества на сумму более 10,5 миллиарда рублей, или более 600 тысяч долларов.

Сегодня в 12 городах приватизирован в среднем 41% предприятий торговли, общественного питания и бытового обслуживания. В результате смены собственника на большинстве предприятий удалось добиться повышения эффективности их работы, возросли такие показатели, как рентабельность и товарооборот. По данным, охватывающим 403 объекта, после приватизации число работающих на них возросло на 12%. Увеличение числа рабочих мест особенно заметно на предприятиях общественного питания. В Бресте, где раньше других стали регулярно проводиться аукционы, в среднем по три новых рабочих места появилось на каждом из предприятий всех трех упомянутых отраслей. На 39% предприятий в результате приватизации возросла заработная плата. 109 предприятий продлили ежедневные часы работы, 94 стали работать без выходных, 5 перешло на круглосуточный режим работы. 78% магазинов после приватизации стали держать свои двери открытыми для покупателей дольше обычного. В 254 случаях на приватизированных предприятиях сделан капитальный или косметический ремонт помещения либо ремонт фасада здания. На 130 объектах заменено устаревшее или пришедшее в негодность оборудование.

Население по достоинству оценило эти изменения. Оказались напрасными опасения, что из приватизированных гастрономов исчезнут продукты первой необходимости, что с приватизацией резко повысятся цены, а в трудовых коллективах пройдут массовые увольнения. В общественном сознании частные предприятия выглядят все более привлекательными. Так, более 70% участников последнего социологического опроса в Минске считают приватизацию предприятий торговли, общественного питания и бытового обслуживания необходимой, около 60% высказались за то, чтобы приватизировать от половины до 100% объектов этих сфер. Даже люди пожилого возраста, которые в качестве наиболее приемлемого места работы для себя называют государственное предприятие, хотели бы видеть своих детей в негосударственном секторе.

Опыт соседних с Беларусью стран — Польши, России, Украины — показал, что для достижения благоприятных результатов малой приватизации важны сжатые сроки ее проведения. Их растягивание дорого обходится белорусской экономике, а в конечном счете и населению страны. Усилия консультантов проекта и в дальнейшем будут направлены на то, чтобы помочь местным органам приватизации повысить темпы реформирования предприятий и довести к концу 1997 года долю приватизированных предприятий коммунальной собственности в среднем до 50%, а к концу 1998 года — до 75—80%.

**Сергей КОВАЛЬЧУК.**

### Погода

2 и 3 октября на территории республики сохранится облачная с прояснениями погода. 2 октября ночью на западе, днем 2 и 3 октября в течение суток на большей части территории дожди. 3 октября возможен мокрый снег. Температура воздуха 2 октября ночью +1...+6, местами заморозки до -2, днем — +5...+10. 3 октября в течение суток +3...+8.

